© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

# Клімент Яфрэмавіч ВАРАШЫЛАЎ



## Ад Цэнтральнага Камітэта КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР

**Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР з глыбокім жалем паведамляюць партыі, усяму савецкаму народу, што ў ноч з 2-га на 3-е снежня 1969 года на 89-м годзе жыцця памёр КЛІМЕНТ ЯФРЭМАВІЧ ВАРАШЫЛАЎ — член КПСС з 1903 года, верны вучань і саратнік У. І. Леніна, адзін з актыўных будаўнікоў Узброеных Сіл СССР, выдатны палкаводзец, партыйны і дзяржаўны дзеяч, член ЦК КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Маршал Савецкага Саюза, двойчы Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы.**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС** **ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР** **САВЕТ МІНІСТРАЎ СССР**

Памёр верны вучань і саратнік У. І. Леніна, адзін з актыўных будаўнікоў Савецкіх Узброеных Сіл, выдатны палкаводзец, партыйны і дзяржаўны дзеяч, член Цэнтральнага Камітэта КПСС, член Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Клімент Яфрэмавіч Варашылаў.

Перастала біцца сэрца камуніста і байца, які прысвяціў усё сваё гераічнае жыццё справе рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа, умацаванню абароннай магутнасці Савецкай дзяржавы, будаўніцтву сацыялізма і камунізма ў нашай краіне.

Клімент Яфрэмавіч Варашылаў нарадзіўся 4 лютага 1881 года ў сяле Верхняе, цяпер Днепрапятроўскай вобласці, у сям'і рабочага-чыгуначніка.

З дзіцячых гадоў К. Я. Варашылаў пачаў працаваць на шахце, а ў 1896 годзе стаў падручным слесара на заводзе ў Алчэўску. Тут пачалася яго рэвалюцыйная дзейнасць. У 1898 годзе ён уступіў у рэвалюцыйны гурток, арганізаваны на заводзе. За ўдзел у забастоўцы К. Я. Варашылаў у 1899 годзе быў арыштаваны, звольнены з завода і занесены ў «чорныя спісы». Толькі праз тры гады яму ўдалося ўладкавацца на паравозабудаўнічы завод у Луганску. На гэтым прадпрыемстве ў 1903 годзе ён уступае ў рады РСДРП, а неўзабаве выбіраецца членам Луганскага бальшавіцкага камітэта і ўзначальвае яго.

У гады рэвалюцыі 1905 — 1907 гадоў К. Я. Варашылаў кіруе барацьбой рабочых Луганска. Восенню 1905 года ён выбіраецца старшынёй Луганскага Савета рабочых дэпутатаў. У 1907 годзе К. Я. Варашылаў быў арыштаваны царскімі ўладамі і высланы ў Архангельскую губерню. Пасля трох гадоў ссылкі і турмаў ён вёў партыйную работу на гарматным заводзе ў Царыцыне, а затым на заводзе ў Петраградзе.

К. Я. Варашылаў актыўна ўдзельнічаў у Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, з першых яе дзён ён член Петраградскага Савета рабочых дэпутатаў, член бюро бальшавіцкай фракцыі. У сакавіку 1917 года ён вярнуўся ў Луганск і там кіраваў рэвалюцыйнай барацьбой.

К. Я. Варашылаў — актыўны ўдзельнік Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У лістападзе 1917 года ён назначаецца камісарам Петраграда. Разам з Ф. Э. Дзяржынскім вёў работу па арганізацыі ВЧК.

У гады замежнай ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны партыя накіроўвае К. Я. Варашылава на барацьбу з акупантамі і белагвардзейскай контррэвалюцыяй. З таго часу ён сваё жыццё прысвяціў справе будаўніцтва і ўмацавання Савецкіх Узброеных Сіл, у радах якіх прайшоў слаўны шлях ад радавога байца да Маршала Савецкага Саюза.

К. Я. Варашылаў — выдатны палкаводзец грамадзянскай вайны, герой абароны Царыцына, адзін з арганізатараў легендарнай Першай Коннай арміі, член яе Рэўваенсавета.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны ён камандаваў войскамі Маскоўскай ваеннай акругі, быў народным камісарам па ваенных і марскіх справах і старшынёй Рэўваенсавета СССР, а затым народным камісарам абароны СССР. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны, з'яўляючыся намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта абароны і займаючы шэраг іншых высокіх пасад ва Узброеных Сілах, ён прымае непасрэдны ўдзел у арганізацыі разгрому нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Выхаваны нашай партыяй, ён вызначаўся беззапаветнай асабістай храбрасцю і арганізатарскім талентам, вялікай чалавечай цеплынёй і сардэчнасцю.

Непарыўную сувязь з Узброенымі Сіламі СССР К. Я. Варашылаў пастаянна падтрымліваў і ў пасляваенныя гады, аддаваў многа сіл і энергіі справе ўмацавання Савецкай Арміі і Ваенна-Марскога Флоту.

К. Я. Варашылаў вёў вялікую работу ў кіруючых органах партыі і Савецкай дзяржавы. У маі 1940 года ён быў назначан намеснікам Старшыні Савета Народных Камісараў СССР. З 1946 да 1953 года з'яўляўся намеснікам Старшыні Савета Міністраў СССР. У 1953 годзе К. Я. Варашылаў выбіраецца Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і выконвае гэтыя высокія абавязкі да 1960 года. Да апошніх дзён свайго жыцця ён быў членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР.

Усё свядомае жыццё К. Я. Варашылава непарыўна звязана з дзейнасцю ленінскай Камуністычнай партыі. Ён быў дэлегатам IV, V, VI, VIII з'ездаў партыі, а з X з'езда — член Цэнтральнага Камітэта партыі. З 1926 года па 1960 год К. Я. Варашылаў — член Палітбюро ЦК КПСС.

На ўсіх пасадах, якія яму даручала партыя, К. Я. Варашылаў аддаваў усе свае сілы, веды, вялікі жыццёвы вопыт справе будаўніцтва сацыялізма і камунізма, беззапаветна служыў нашай вялікай сацыялістычнай Радзіме.

Камуністычная партыя і Савецкая дзяржава высока ацанілі выдатныя заслугі К. Я. Варашылава, удастоіўшы яго двойчы звання Героя Савецкага Саюза, звання Героя Сацыялістычнай Працы, узнагародзіўшы васьмю ордэнамі Леніна, шасцю ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнам Суворава I ступені, медалямі і ганаровай рэвалюцыйнай зброяй. Ён узнагароджан многімі ордэнамі і медалямі шэрагу сацыялістычных краін і іншых дзяржаў.

Усё жыццё і дзейнасць Клімента Яфрэмавіча Варашылава — вернага ленінца, выдатнага партыйнага, дзяржаўнага і ваеннага дзеяча служаць натхняючым прыкладам самаадданай барацьбы за інтарэсы рабочага класа і ўсіх працоўных, за перамогу камунізма.

Камуністычная партыя і савецкі народ назаўсёды захаваюць пра Клімента Яфрэмавіча Варашылава светлую памяць.

**Л. І. Брэжнеў, Г. І. Воранаў, А. М. Касыгін, А. П. Кірыленка, К. Т. Мазураў, М. В. Падгорны, Д. С. Палянскі, А. Я. Пельшэ, М. А. Суслаў, А. М. Шалепін, П. Я. Шэлест, Ю. У. Андропаў, В. В. Грышын, П. Н. Дземічаў, Д. А. Кунаеў, П. М. Машэраў, В. П. Мжаванадзе, Ш. Р. Рашыдаў, Д. Ф. Усцінаў, У. В. Шчарбіцкі, І. В. Капітонаў, К. Ф. Катушаў, Ф. Д. Кулакоў, Б. М. Панамароў, М. С. Саломенцаў, Г. Ф. Сізоў, М. К. Байбакоў, В. Э. Дымшыц, М. Ц. Яфрэмаў, У. А. Кірылін, М. А. Лясечка, У. М. Новікаў, І. Т. Новікаў, Л. В. Смірноў, М. А. Ціханаў, І. В. Спірыдонаў, Ю. І. Палецкіс, А. А. Грэчка, М. В. Захараў, І. І. Якубоўскі, С. М. Будзённы, А. А. Епішаў, П. Ф. Баціцкі, С. Г. Гаршкоў, Н. І. Крылоў, П. К. Кашавой, К. С. Маскаленка, І. Х. Баграмян, А. М. Васілеўскі, Ф. І. Голікаў, А. І. Яроменка, Г. К. Жукаў, І. С. Конеў, С. К. Цімашэнка, В. І. Чуйкоў, С. Л. Сакалоў, С. С. Марахін, А. Н. Камароўскі, П. С. Кутахоў, І. Г. Паўлоўскі, М. П. Геаргадзе, Я. М. Цяжэльнікаў, А. І. Мікаян, М. М. Швернік, А. А. Андрэеў, А. Ф. Горкін, Я. І. Дадонаў, Н. А. Звярака, А. С. Мусько.**

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# ХАРАСТВО ПРАСТАТЫ

Міхась МОДЭЛЬ.

ЦЯПЕР слова «прастата» вельмі часта адрасуецца акцёрам, калі характарызуюць іх манеру ігры — натуральную так, што выканаўца ролі выглядае двайніком персанажа. Больш таго, катэгорыя «прастаты» лічыцца неад'емнай часткай сучаснага стылю ў артыстычным мастацтве. Прынамсі, гэта гучыць амаль у кожным артыкуле пра купалаўскую трупу, калі гаворка ідзе пра Галіну Макараву. Яно, канечне, так і ёсць: іграе яна часцей за ўсё якраз так, што верыш ёй у кожным яе слове і кожным учынку. Ды толькі прастата, з якой яна па-жыццёваму пераканаўча і па-акцёрску маляўніча раскрывае характары сваіх гераінь, — гэта не звычайнае супадзенне індывідуальных якасцей Галіны Кляменцьеўны і якасцей напісанага драматургам вобраза. Справа больш складаная — індывідуальнасць актрысы і сапраўды, як кажуць, «тыпажная», яе можна эксплуатаваць колькі хочаш, але Макарава дасягае вышэйшай мастацкай прастаты на сцэне, выпрацоўваючы яе па эстэтычных мерках: яна **стварае** характар жанчын з народа, імкнучыся быць вернай праўдзе як мастак, а не капіроўшчык-пераймальнік.

Крыўдна, што вельмі доўга рэжысура тэатра лічыла Галіну Макараву чыста «бытавой» актрысай, быццам рамантыка і лірызм не адпавядаюць «творчаму профілю» і не яе «амплуа». Выключэннем, бадай, быў спектакль «Рускія людзі» ў другой рэдакцыі, а так ёй даводзілася і даводзіцца выходзіць на акадэмічную сцэну ў камедыйна-бытавых ролях. На працягу многіх гадоў яна выступала пераважна ў якасці партнёра вядучых артыстаў купалаўскай трупы — яна была каларытнай жонкай Гарошкі побач з зусім арыгінальным Г. Глебавым у камедыі «Выбачайце, калі ласка!» А. Макаёнка, сястрой Рамадана, якога строга і маштабна ляпіў Б. Платонаў у «Крылах» А. Карнейчука... Гледачы здагадваліся, што і ў такіх («ценявых», умоўна кажучы) персанажах актрыса знаходзіць логіку пачуццяў, псіхалагічную праўду ў паводзінах і па-мастацку будуе характар. Але каб гэтыя здольнасці прагучалі на ўсю моц, Г. Макарава павінна была сыграць гераіню, якой аддадзена вядучае значэнне ў канфліктах драмы або камедыі.

І вось яна — Лушка ў спектаклі «Лявоніха на арбіце», а пазней Лізавета ў драме «У мяцеліцу». Нарэшце, іграе драматычныя вобразы з героіка-рамантычнай інтанацыяй і лірычнымі нюансамі. Рэжысура паверыла ў маштабнасць таленту выканаўцы, у тое, што яе артыстычная інтуіцыя і тэмперамент здольны на многае.

Давер'е... Які гэта вялікі і натхняючы стымул для акцёра! Лушка і Лізавета ў тлумачэнні Макаравай — сялянкі, нашы сучасніцы, якія любяць здаровае жыццё і прыкладаюць усе душэўныя намаганні, каб яно было радасным для ўсіх, плённым для грамадства. Яны ворагі цемры і забабонаў — спадчыны цяжкай мінуўшчыны. Сваімі думкамі і пачуццямі, учынкамі і словамі гэтыя жанчыны сцвярджаюць сацыялістычную мараль, як яны яе разумеюць і цэняць.

У аднаго паэта ёсць вершы, дзе калгасны брыгадзір дбае нават пра тое, «каб сонца не заспала». Жанчыны, сыграныя Макаравай у спектаклях «Лявоніха на арбіце» і «У мяцеліцу», такія — яны да ўсяго ў жыцці ставяцца як зацікаўленыя асобы, здольныя дапамагчы і абавязкова падштурхнуць стомленых і сумных людзей да дзейнасці. Скажам, такая гераіня Лізавета: яна, быццам завея, лятае па доме Сыраваравых, змяняючы атмасферу прыгнечанасці на светлы і свежы подых упэўненасці ў заўтрашнім дні. Добра робіць Макарава, калі праз неўтаймаваную весялосць гэтай гераіні «прабівае» і ноткі жаночай тугі — актрыса разам з Лізаветай бачыць чужое гора і ўспрымае яго як неўладкаванасць у гэтым свеце, дзе ёй дарагія сапраўдныя каштоўнасці, сапраўдная чалавечнасць. Гэта пранесла актрыса праз увесь спектакль як лейттэму вобраза, захоўваючы і ўласцівую ёй бытавую канкрэтнасць у паводзінах на сцэне. Сонцу заспаць такая ніколі не дасць!

І як гэта хораша, што актрыса не шкадуе сонечных фарбаў, якімі багата яе акцёрская палітра, каб Лушка і Лізавета былі не толькі ярка індывідуальнымі, а сталі б тыповымі сучаснымі персанажамі.

У галерэю сцэнічных вобразаў жанчын на купалаўскай сцэне былі ўпісаны шматпланавыя і розныя, «макараўскія жанчыны». У кожнай з іх свой шлях да жыццёвай праўды, якую яны адстойваюць. Партрэт калгасніцы Лушкі я б асмеліўся назваць класічным — такі ён збіральны, па-акцёрску абагульнены, дасканала абмаляваны ў кожнай дэталі.

Праўда, некаторыя крытыкі дакаралі аўтара п'есы і тэатр за «інтэлектуальную прасталінейнасць» Лушкі. З гэтым я не магу згадзіцца: ці ж разумна патрабаваць ад сялянкі, нават ад такой, якая выйшла на высокую арбіту грамадскага жыцця, абстрактнай інтэлекттуальнасці наогул? Тое і добра, што Т. Макарава паказала па-народнаму мудрую, непасрэдную і ўчэпістую натуру «чалавека ад зямлі», канкрэтнага і своеасаблівага. Колькі ў яе Лушкі прывабнай высакароднасці, прыроднага розуму, энергіі і прыроднага таленту чалавеказнаўства. Вось за паказ такога таленту мы і апладзіруем актрысе з пачуццём удзячнасці.

У інтэнсіўным, драматычна насычаным і сатырычна дасціпным «дыялогу» з Лявонам і іншымі героямі Г. Макарава раскрывае шматгранны нацыянальны характар сучаснай беларускай жанчыны. Лушка Макаравай гневаецца на мужа, часам бязлітасна асуджае яго, але імкнецца і «выхаваць» блізкага чалавека, згодна са сваім жыццёвым ідэалам. Публіцыстычная завостранасць яе жывых выказванняў аб маральных прынцыпах калектыву аднадумцаў прасякнуты драматызмам перажыванняў, жаночай цеплынёй і рамантычнай узнёсласцю. Такая Лявоніха — з сучаснай вёскі, дапытлівы чалавек, здольны зазірнуць з нашага «сёння» ў яшчэ больш светлую будучыню.

Лушка, як гэта і напісана аўтарам, узнімае «жаночы бунт» —ёй надакучыла корпацца на ўласным агародзе і хадзіць усё жыццё толькі ў «Лявонавых жонках»: яна хоча быць асобай, якой адкрыта ўсё багацце інтарэсаў сучасніка. Трэба бачыць, як ваяўніча вядзе гэты «бунт» Г. Макарава! Гарэзліва і іранічна вымаўляе актрыса трапныя рэплікі, з эмацыянальным уздымам кідаецца ў вір камедыйных сітуацый — карацей кажучы, гаспадарыць на сцэне. Нават калі разам з ёй іграў такі майстра, як Б. Платонаў, ініцыятыва ў разгортванні канфлікту належала ёй, Лушцы-Лявонісе. У адным выпадку Б. Платонаў цудоўна завяршаў апафеозную сцэну, нібы падводзячы вынік Лушкіным учынкам крыкам: «Людзі добрыя! Што дзеецца на свеце? Навіна якая? Чулі? Мая Лушка выходзіць на арбіту!.. Трымайце яе!» Ды не ўтрымаеш, не, няма ўжо ніякіх перашкод перад такой Лушкай... Цудоўны акцёрскі дуэт — і Галіна Кліменцьеўна, мабыць, шчаслівая, што ёй давялося, спачатку многаму павучыўшыся ў таго ж Б. Платонава, іграць не «цень» яго героя, а выступаць вартым партнёрам і вядучай фігурай у камедыі.

Спектакль заваёўваў сімпатыі гледачоў, хоць праблематыку «Лявоніхі на арбіце» той-сёй з іх і лічыў не зусім жыццёвай, бо ад агарода і каровы, відаць, адмовіцца пакуль што далёка не кожная Лушка. Але т а к а я Лявоніха, якой яе паказвала Г. Макарава, — адмовіцца абавязкова. Актрыса выступіла саюзнікам драматурга ў сваім роздуме аб лёсе жанчыны, і яе выкананне ролі Лушкі было пераканаўчым доказам справядлівасці аўтарскіх намераў А. Макаёнка, пачэрпнутых ім у рэальным жыцці.

Тое, што Макарава нікога не паўтарае ў вобразах сялянак, творча карыстаючыся традыцыямі, ідзе ў сцэнічным мастацтве сваім шляхам, сведчыць і вобраз Лізаветы. Драма, напісаная Л. Лявонавым, — твор высокага пафасу і па-мастацку каларытных чалавечых характараў з багатай моўнай палітрай. Адухоўленасць і акрыленасць, палымяны тэмперамент, багацце інтуітыўных імпульсаў, якія дапамагаюць гэтай гераіні распазнаць людзей добрых і дрэнных, знайсці «ключы» да сэрца тых, чые думкі і справы яна падзяляе. Буйнымі мазкамі малюе і задушэўна расказвае Г. Макарава пра надзеі і расчараванні Лізаветы, пакуты сэрца і знойдзенае шчасце.

Артыстка пазбаўлена прэм'ерскай самаўлюбёнасці. І хоць яе жанчыны на першай лініі жыцця, а не ў закутках, Г. Макарава іграе з пачуццём ансамблевасці. З ёй і лёгка іграць, бо жыццё «чалавечага духу», якое нясе артыстка, натхняе партнёраў. Але бывае і цяжка: тады, калі акцёр, які дзейнічае на сцэне разам з Макаравай, «эканоміць» тэмперамент і жыве цьмянымі эмоцыямі.

У спектаклях «Лявоніха на арбіце» і «У мяцеліцу» артысткі пашанцавала. У ансамблі з ёю дзейнічалі Б. Платонаў і Л. Ржэцкая, П. Малчанаў і Л. Рахленка, З. Стома і І. Шацiла — выдатныя майстры беларускай сцэны. Як я гаварыў, школай яе творчага станаўлення былі эпізадычныя, «маленькія» ролі, і яны таксама давалі пажытак Г. Макаравай для раскрыцця артыстычных магчымасцей.

Кожная з гераінь, сыграных актрысай, пакідала свой след у біяграфіі Макаравай. Часам яны былі своеасаблівымі эскізамі да будучых вялікіх палотнаў-партрэтаў Лушкі і Лізаветы.

Выступае Г. Макарава і дублёрам у ролях, якія створаны іншымі артысткамі. У гэтых адносінах асабліва паказальная Агата ў «Паўлінцы», у спектаклі, які накшталт «Чайкі» ў МХАТ цяпер адкрывае афішу тэатра імя Янкі Купалы.

Не лёгка было ўваходзіць у спектакль, дзе В. Пола больш як 400 разоў радавала гледачоў жыццёвай праўдай сваёй каларытнай гераіні. Макарава не стала капіраваць гатовы ўзор, а паставілася да яго як паслядоўніца майстра, яе плённых традыцый у камедыйным рэпертуары.

Агата Макаравай, як і В. Пола, — купалаўская жанчына: жыццелюбівая, багатая сонечнымі, шчырымі і цёплымі, як кажуць, «фламандскімі» фарбамі. У сцэнічным вобразе ёсць і драматычныя акцэнты, больш падкрэсленая сацыяльная тыпізацыя. Агата ўмее весяліцца, але гэта горкая весялосць. Гераіня глыбока спачувае Паўлінцы, якой на шляху да шчасця замінаюць забабоны старой вёскі. Яна добра ведае цану весялосці і цану жаночай слязы. Праз светлы гумар Г. Макарава сцвярджае высокую годнасць беларускай жанчыны Агаты і абвяргае крыўдныя словы, адрасаваныя Сцяпанам іншай гераіні: «Валасы доўгія, а розум кароткі». Абвяргае, бо гэта абражае ўсіх жанчын-сялянак і не адпавядае праўдзе. Любата глядзець на гэтую Агату — актрыса дае жывы і тыповы вобраз жанчыны мінулага!

Сустрэча з героямі М. Горкага — заўсёды свята для акцёра, школа майстэрства, выхавання высокага эстэтычнага густу. У спектаклі «На дне» артыстка сыграла ролю «гандляркі пяльменямі» Квашні. І раскрыла новыя грані таленту. Па-першае, Г. Макарава іранічна ставіцца да слоў гераіні: «Я... свабодная жанчына, сама сабе гаспадыня...» Мы разумеем, што гэта суцяшальная ілюзія, бо нельга людзям «дна» свабодна здзейсніць нават свае сціплыя жыццёвыя ідэалы. І такі падтэкст «чытаецца» за дэкларацыйнымі развагаваннямі Квашні. Гэты «падтэкст» упісваецца ў агульную «скразную дзею» пастаноўкі. Вобраз Квашні — Макаравай «працуе» на раскрыццё ідэі драмы і садзейнічае ўвасабленню задумы пастаноўшчыка. Роля выканана з тым палемічным пафасам, які быў уласцівы Г. Макаравай у Лушцы і Лізавеце — лепшых ролях актрысы.

Няма патрэбы звяртацца да ўсіх спектакляў, у якіх праявіліся акцёрскі тэмперамент і інтуіцыя. Г. Макаравай. Не ўсё аднолькава ўдавалася артыстцы, не ва ўсіх выпадках была магчымасць узняцца над бытавой аднастайнасцю і «прыземленасцю» тэксту. Не ўсё залежала ад выканаўцы, якая нярэдка атрымлівала ролі падобныя адна на адну па літаратурным матэрыяле і эмацыянальна-псіхалагічным стане гераінь. Яна чамусьці пераважна іграла ў п'есах на сялянскую тэматыку. У гэтым найпершы недагляд рэжысуры.

Дастаткова было Макаравай «дакрануцца» да класікі (Шэкспір, Мальер), як стала відна, што і гэта ёй не чужое. І калі поспех быў не заўсёды поўны, то ў гэтым вінавата недастатковая практыка артысткі ў класіцы. Хто ж тут вінаваты, калі не рэжысура тэатра?

Мы адчуваем творчы дыяпазон Макаравай значна большым, чым ёй пакуль што раскрыўся на сцэне. Яна, канечне, непаўторная ў вобразах так званых «простых» людзей. І такіх будзе іграць і далей. Але яна з тых мастакоў, якія кожны раз нанава адкрываюць свет, яго гукі і фарбы, яго харaство і супярэчлівасці. Таму ёй смела можна даручаць і высокую драму, і бытавую камедыю, і лірычную споведзь жаночага сэрца. Тэатр мае права ставіць п'есы такога плану спецыяльна з разлікам на яе талент і тэмперамент, на яе майстэрства і вопыт. Галіна Макарава, калі выходзіць на сцэну, дык не падвядзе: сумленны і самаадданы працаўнік, яна жыве тэатрам. За гэта ёй пашана шматлікіх прыхільнікаў нашага цудоўнага артыстычнага ансамблю, які завецца калектывам купалаўцаў.









**Галіна Макарава ў ролях: удавы («Канец — справе вянец»), Варвары («Вечная крыніца»), Лушкі («Лявоніха на арбіце»), Агаты («Паўлінка»).**

# ЗЛАЧЫНЦАЎ—ДА АДКАЗУ!

*ПІСЬМО ГРУПЫ САВЕЦКІХ ГРАМАДСКІХ ДЗЕЯЧОЎ.*

У Паўднёвым В'етнаме амерыканскія агрэсары зрабілі яшчэ адно злачынства. Сустрэўшы ўпартае супраціўленне мужнага в'етнамскага народа, які змагаецца за сваю свабоду і нацыянальную незалежнасць, ваеншчына ЗША пайшла па слядах нацысцкіх злачынцаў. Яна знішчыла дзесяткі паўднёвав'етнамскіх вёсак і сёл, назвы якіх сёння засталіся існаваць толькі на геаграфічных картах. Нягледзячы на тое, што амерыканскія ўлады ў Сайгоне і Вашынгтоне зрабілі ўсё, каб утаіць ад свету свае злачынствы, чалавецтва даведалася праўду аб масавым расстрэле ў вёсцы Сонгмі. Варварскае наўмыснае знішчэнне больш як 500 жанчын, старых і дзяцей па сваёй жорсткасці паўтарае злачынствы гітлераўскіх фашыстаў. Нельга без гневу гаварыць аб зверскім забойстве ні ў чым не вінаватых жыхароў мірнай паўднёвав'етнамскай вёскі. Цяпер кожнаму сумленнаму чалавеку зусім зразумела, што злачынная вайна, якую вядуць амерыканскія імперыялісты супраць в'етнамскага народа з ужываннем хімічнай і бактэрыялагічнай зброі і варварскіх метадаў знішчэння мірнага насельніцтва — гэта абуральнае парушэнне ўсіх норм міжнароднага права, гэта грубая знявага чалавечай маралі. Злачынствы амерыканскай ваеншчыны ў В'етнаме выклікаюць рашучы пратэст усіх сумленных людзей і ў саміх ЗША.

Савецкія прыхільнікі міру, як і прыхільнікі міру на ўсіх кантынентах, якія рашуча выступаюць супраць ваенных злачынстваў амерыканскай ваеншчыны ў Паўднёвым В'етнаме, патрабуюць пакласці канец агрэсіі, неадкладна і без усялякіх умоў вывесці войскі ЗША і іх краін-сатэлітаў з Паўднёвага В'етнама, даўшы в'етнамскаму народу права самому вырашаць свой лёс.

Мы асуджаем злачынную палітыку імперыялістычных колаў ЗША і крывадушнасць Пентагона, які спрабуе даказаць сваю недатычнасць да злачынстваў у правінцыі Куангнгай.

Мы падтрымліваем прапановы, якія выказваюцца ў шырокіх колах грамадскасці розных краін аб прыцягненні да строгага адказу віноўнікаў масавых зверстваў амерыканскіх узброеных сіл супраць мірнага в'етнамскага насельніцтва, нечуваных злачынстваў у вёсцы Сонгмі.

На лаве падсудных побач з лейтэнантам У. Колі павінны быць тыя, чые загады выконваюць забойцы в'етнамскага народа.

Злачынцаў — да адказу! — такое патрабаванне мільёнаў людзей добрай волі.

Гэтага патрабуе сумленне і розум чалавецтва!

Ад імя Савецкага камітэта абароны міру:

**М. Ціханаў, А. Карняйчук, Я. Фёдараў, М. Шолахаў, В. Чхіквадзе, Ю. Жукаў, Г. Аляксандраў, С. Вярноў, С. Герасімаў, М. Котаў, В. Камісаранка, В. Каванаў, Л. Касмадзям'янская, Н. Блахін, Ф. Кажэўнікаў, А. Несмяянаў, Г. Уланава, Б. Палявой, Я. Пейве, Н. Сямёнаў, А. Суркоў, В. Хвастоў, Д. Шастаковіч, П. Чаранкоў.**



© PDF: Kamunikat.org 2023 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

